На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 190 (542)

Чацвер, 22 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

Intec Computer. Газета сверстана на кампьютерах фірмы "ЛИНТЕК"

ООО Экопроммеханізм. ЭЛЕКТРОТЕХНИКА от "А" до "Я". Тел./факс:(017) 283-65-70, 269-52-13, 268-03-95.

ПромЭлектроСервис ООО. со склада в центре Минска ЭЛЕКТРОТЕХНИЧЕСКАЯ ПРОДУКЦИЯ. ТЕЛ. (017) 268-04-03.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает МОБИКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

Кальченко & К°

# Колькі беларусам засталося крочыць па шляху ганьбы і галечы?

**Поздравляем!**

## Вторая молодость Игоря Добролюбова

*Народному артисту, кинорежиссеру Игорю Добролюбову — 60!*



*Игорь Добролюбов сейчас...*



*...и много лет назад.*

Несмотря на столь солидную дату, лично у меня язык не поворачивается назвать Игоря Михайловича стариком, хотя бы и бодрым, крепким. Старик — это вообще не про него.

Да, Добролюбову шестьдесят... А он до сих пор по-юношески, вернее, как пацан, влюблен в кинематограф. И это чувство он с детства пронес через всю жизнь. Он строг в своих оценках, непримирим к фальши, порой ошибается в своих выводах, но всегда верен себе и своим художественным принципам.

Главный принцип у киномэтра такой: вижу и рассуждаю об увиденном.

Шестьдесят... Но он и сегодня полон радужных надежд на осуществление мечты, ожидания лучшей жизни и предчувствия встречи с непременно увлекательным будущим. Гипероптимистический настрой и служит ему стимулом к действию. И у такого устремления нет предела. Меняются его формы, цели, но всегда неизменным остается порыв. Поэтому, видимо, он и не стареет, и, быть может, уставая физически, внутренне всегда сохраняет молодость.

Шестьдесят... Можно было бы много рассказать про сегодняшнюю жизнь Добролюбова, про его каждодневные, философско-романтические мысли и творческие идеи. Про то, от чего он страдает и что его радует. Поговорить с ним самим про сегодняшнюю жизнь белорусского кинематографа с его мертвым кино, о проблемах завтрашних... И все-таки лучше всего еще раз посмотреть его картины, сделанные много лет назад, но и сегодня такие прозрачные, как капелька белой росы: в них всегда видно, что рождалось болью сердца, а что — радостью души.

Шестьдесят... Говорят, в этом возрасте лишь прощаешься с молодостью.

Шестьдесят...

Да разве это возраст для **такого** человека? Нет, Игоря Михайловича где-то там, в будущем времени, ожидает еще самое лучшее пронзительное кино, и самые счастливые годы, и самые долгожданные, дивные встречи, и самые бурные божественные овации, и самые престижные награды...

**Марина КОКТЫШ.**

## Па словах В.Вячоркі, БНФ выбраўся з той "ямы", у якой знаходзіўся ў 1996—1997 гадах, і зноў гатовы да барацьбы

10-годдзю ўтварэння Беларускага народнага фронту быў прысвечаны ўрачысты вечар, які прайшоў днямі ў мінскім Палацы культуры вытворчага аб'яднання "Сукно".

З вялікай праграмнай прамовай перад прысутнымі выступіў намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка. У якасці асноўных дасягненняў Народнага фронту ён назваў праўду аб Курапатах і аб Чарнобылі, барацьбу за свабоду слова, парламенцкую дзейнасць фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, працу па дасягненні незалежнасці Беларусі і г.д. Апошнія гады, адзначыў В.Вячорка, прайшлі пад знакам барацьбы за захаванне суверэнітэту Беларусі і адраджэнне ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пры гэтым было адзначана: няўдачы ў выбарах і рэферэндумах выбілі фронт з каляіны; песімізм перажылі многія яго члены. Аднак сёння, па словах В.Вячоркі, БНФ пераадолеў гэтую "яму", у якой знаходзіўся ў канцы 1996-га—пачатку 1997 года, набыў "другое дыханне" і зноў гатовы да барацьбы. Рух БНФ, заявіў выступоўца, гатовы да супрацоўніцтва з іншымі палітычнымі сіламі, але толькі на аснове такіх прынцыпаў, як абарона незалежнасці Беларусі і няўдзел у выбарчых кампаніях цяперашняга рэжыму. Намеснік старшыні Народнага фронту прапанаваў правесці так званы маніторынг передвыбарчай сітуацыі ў краіне па наступных параметрах: свабода прэсы, практыка праследаванняў па палітычных матывах, плюралізм складу выбарчых камісій. У выніку такога маніторынга, лічыць Вячорка, "прыйдзецца канстатаваць, што ў краіне няма ўмоў для свабоднага волевыяўлення грамадзян". Гэта стане повадам для таго, каб заклікаць міжнародную супольнасць не прызнаваць вынікаў выбараў.

На ўрачыстым вечары таксама выступілі такія вядомыя беларускія апазіцыянеры, як Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Дабравольскі і іншыя.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## У верасні 1998 года ў параўнанні са жніўнем спад прамысловай вытворчасці ў Беларусі склаў 4,5 працэнта

У верасні гэтага года ў параўнанні са жніўнем, як сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу, у прамысловасці дапушчаны спад аб'ёмаў вытворчасці на 4,5 працэнта. Найбольшым ён быў у паліўнай (на 19,4 працэнта), харчовай (12,1), хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці (6,7), а таксама ў машынабудаванні і металаапрацоўцы (6 працэнтаў).

Рост жа аб'ёмаў вытворчасці ў верасні 1998 года назіраўся толькі ў электраэнергетыцы (на 18,1 працэнта), лёгкай прамысловасці (12,7) і чорнай металургіі (на 3,7 працэнта).

15,6 працэнта прамысловых прадпрыемстваў Беларусі па выніках студзеня—жніўня гэтага года стратныя. Рэнтабельнасць прамысловай вытворчасці склала 10,8 працэнта супраць 13,3 працэнтаў у студзені—жніўні 1997-га. Найменшай яна была ў электраэнергетыцы (мінус 1,9 працэнта). Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць па стане на 1 верасня 1998 года дасягнула ў прамысловасці 27 трыльёнаў рублёў, пратэрмінаваная крэдыторская — 40,1 трыльёна.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



Людзей творчага пошуку аб'ядноўвае цэнтр народных рамёстваў "Задзвінне". Уладзімір Пракоп'еў (на здымку) можа зрабіць на заказ гітару, балалайку. Пры яго ўдзеле ў Віцебску створана майстэрня па рамонце і вырабе музычных інструментаў.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## За мінулы тыдзень курс долара на "чорным" рынку Мінска ўзрос больш чым на 17 працэнтаў

На мінулым тыдні (12—18 кастрычніка) курс долара ЗША ў дачыненні да беларускага рубля працягваў павышацца на ўсіх сегментах валютнага рынку.

Лідэрам росту аказаўся курс долара да беларускага безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку — 17,7 працэнта (з 220.000—260.000 да 270.000—295.000 рублёў). На "чорным" рынку наяўнай валюты ў Мінску каціроўка амерыканскай валюты павялічылася ў сярэднім на 17,3 працэнта (са 120.000/125.000 — 135.000/140.000 да 145.000/150.000 — 155.000/160.000 рублёў), пры гэтым у сярэдзіне тыдня курс продажу дасягаў 180.000 рублёў. У абменных пунктах камерцыйных банкаў долар падаражэў у сярэднім на 1,2 працэнта (з 75.000/75.800 — 76.000 да 76.000/76.500 — 77.000 рублёў).

На таргах мінскай Міжбанкаўскай валютнай біржы амерыканскі долар узрос за тыдзень у цане на 2,6 працэнта (з 54.000 да 55.400 рублёў), нямецкая марка — на 2,4 працэнта (з 33.500 да 34.300 рублёў), расійскі рубель — на 20,0 працэнта (з 3.400 да 4.080 рублёў). Курс украінскай грыўны шосты тыдзень запар застаецца на ўзроўні 27.500 рублёў.

Напрыканцы мінулага тыдня пазабіржавы курс долара перавысіў біржавы ў 5,1 раза (тыдзень таму — у 4,4 раза), а розніца паміж "чорным" і банкаўскім курсамі склала 99,0 працэнта (тыдзень таму — 71,7 працэнта).

З пачатку месяца пазабіржавы безнаяўны курс долара ўзрос на 28,4 працэнта, біржавы — на 3,9 працэнта, "чорны" наяўны — на 38,6 працэнта, банкаўскі — на 5,3 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**Фестивали**

## В белорусскую столицу приходит пятый "Лістапад"

По традиции осенью белорусские кинозрители вновь получат возможность увидеть на большом экране последние работы кинематографистов стран СНГ и Балтии. С 22 по 28 ноября в Минске пройдет Международный кинофестиваль "Лістапад".

В нем примут участие работы мастеров экрана из 9 стран — России, Украины, Литвы, Латвии, Эстонии, Казахстана, Грузии, Азербайджана и Беларуси. Причем согласно условиям "Лістапада", он соберет только картины, получившие в нынешнем году призы на различных киносмотрах. Среди них "Му-му" Юрия Грымова, "День полнолуния" Карена Шахназарова, "Две луны, три солнца" Романа Балаяна, "Страна глухих" Валерия Тодоровского, "Маленький боец" Маргариты Касымовой.

Как всегда, "Лістапад" соберет и большое число звезд кино, которые приедут представить минчанам свои работы. Свое согласие принять участие в кинофестивале уже дали Михаил Ульянов, Станислав Говорухин, Олег Янковский, Лидия Федосеева-Шукшина, Лариса Удовиченко, Нина Усатова и многие другие.

В нынешнем году "Лістапад" пройдет в пятый раз.

**Эдуард ПИВОВАР, БелТА.**

**Слышали?**

## Владимиру Хилько предъявлено обвинение

Управление по борьбе с организованной преступностью и коррупцией республиканской Прокуратуры предъявило обвинение бывшему председателю правления АСБ "Сбербанк" Владимиру Хилько.

Напомним, что он был задержан 6 октября. По информации, полученной БелТА в Прокуратуре Беларуси, Владимир Хилько обвиняется в том, что, будучи главой банка в 1994—1995 годах, допустил превышение служебных полномочий. Это нанесло Сбербанку ущерб на сотни тысяч долларов США.

**БелТА.**

## Происшествия со смертельным исходом

Жуткой трагедией завершилось столкновение двух легковых автомобилей, которое произошло вечером 17 октября на автомагистрали Гродно—Минск неподалеку от города Скиделя. Ехавшие в них четыре человека — оба водителя и две пассажирки — от полученных травм скончались на месте происшествия. Еще одна пассажирка — 32-летняя жительница Гродно с травмами помещена в больницу.

Как стало известно БелТА, авария произошла из-за того, что один из автомобилей, за рулем которого находился пенсионер, выехал на полосу встречного движения.

Еще одна дорожная трагедия в этот же день произошла в городском поселке Порозово Свислочского района. Здесь от полученных травм на месте происшествия скончался находившийся за рулем 22-летний студент-пятикурсник Гродненского государственного университета. Не справившись с управлением автомобиля, принадлежавшего отцу, он врезался в ограждение вокруг местного храма.

На минувшей неделе в дорожно-транспортных происшествиях на Гродненщине погибли 8 человек. Кроме названных случаев, аварии со смертельным исходом зарегистрированы также на территории Сморгонского, Зельвенского и Кореличского районов. Еще 27 человек в области за прошедшую неделю в результате дорожных аварий получили ранения.

**Константин БОЛОТЕВИЧ.**

**Надвор'е**

**22 і 23 кастрычніка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, 22-га на большай частцы тэрыторыі, 23-га ўначы — па паўночным захадзе рэспублікі дажджы; удзень 23-га пераважна без ападкаў. Вецер паўднёва-заходні, 7—12 м/с. Тэмпература паветра ўначы +3...+8; 22-га ўдзень +8...+13, 23-га +11...+16.**



*Янка КУПАЛА*

## Перад будучыняй

*Стаім мы перад будучыняй*
*нашай*
*І ўсё варожым, сочым ейны ход...*
*Ці ўскрэснем мы, душою*
*ўпаўшы, звяўшы,*
*Каб выйсці ў свет, як нейкі*
*здольны род...*

*Сягоння мы жывём і ўдзень*
*мы блудзім*
*Пад маскай, асляпляючаю нас,*
*І што сказаць самім сабе*
*і людзям,*
*Не ведаем, не можам, хоць і час.*

*Заціснуты, задушаны, як мышы*
*Пад жорсткім венікам*
*з усіх бакоў,*
*Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы*
*Таго свайго, што наша ад вякоў.*

*Пакрыўленыя колісь нашы душы*
*Дагэтуль выпрастаць*
*не ў моцы йшчэ;*
*Снуёмся, ў думках зводных*
*затануўшы,*
*А хтось, а штось і мучыць і пячэ.*

*Цябе чакаем, будучыні нейкай.*
*Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас*
*павядзеш,*
*І гінем марна пад чужой апекай,*
*Адбіўшыся ад родных вехаў, меж...*

*А хтось далёкі ці хтось,*
*можа, блізкі*
*Засеў за наш бяседны,*
*сытны стол*
*І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,*
*А мы к зямлі з падзякай*
*гнёмся ўпол.*

*Нявольніцтва й жабрацтва*
*так нас з'ела*
*і так нам высмактала*
*з сэрца сок,*
*Што нат у вочы глянуць,*
*плюнуць смела*
*Не смеем, стоптаныя на пясок.*

*Там чутна: Беларусь!*
*Там — Незалежнасць!*
*А там — "Паўстань*
*праклящем..." Ну, а мы?*
*Мы ў страху... дым, крутня...*
*разбежнасць...*
*Без толку крыллем лопаем,*
*як цьмы.*

*О, так, як цьмы,*
*як спуджаны вароны!..*
*І слухаем і нюхаем тут, там:*
*Які павеяў вецер на загоны, —*
*Заходні, ўсходні, й ці ад нас,*
*ці к нам?*

*Аграбленыя з гонару й кашулі,*
*З свайго прыпынку*
*выгнаныя вон,*
*Мы дзякуем, што торбы*
*апранулі*
*На нас ды з нашых нітак-валакон.*

*З кійком жабрачым так мы,*
*паўналеткі,*
*Брыдзём, паўзём у свет —*
*скрозь неўпапад.*
*І прысягаем, клічам Бога*
*ў сведкі,*
*Што мы — не мы,*
*што нехта вінават...*

*І так жывём, сябе саміх*
*не знаўшы,*
*Учора, сёння лазім між канаў...*
*Няўжо ж бы хто й*
*над будучыняй нашай*
*Навек залом пракляты заламаў?*

*Няўжо нас не аб'ясніць*
*розум ясны,*
*І не пакінем біцца з кута ў кут?*
*Няўжо кліч вечны будзе ў нас*
*напрасны —*
*Кліч бураломны:*
*вызваленне з пут?!*

**1922 г.**

## Кастрычнік ставіць новыя рэкорды дарагоўлі

У першы тыдзень кастрычніка на спажывецкім рынку без змяненняў заставаліся толькі цэны на гарэлку і бульбу. Паводле апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, кошт харчовай карзіны павялічыўся на 2,3 працэнта.

Аптымістычныя прагнозы аб тым, што пасля вераснёўскага скачка дарагоўлі цэны стабілізуюцца на даволі працяглы перыяд, яўна не апраўдаліся. Напрыклад, селядцы, якія ў мінулым месяцы падаражэлі роўна ў два разы, у кастрычніку зноў прыбавілі ў цане амаль на 7 працэнтаў. Крупы падаражэлі на 14,4 працэнта, мука — на 7,8, маргарын — на 5 працэнтаў. Але цэны на мяса, малако і хлебабулачныя вырабы павялічыліся нязначна — у межах аднаго-двух працэнтаў.

**БелТА.**

ПРОДАЕМ
ТРАКТОРА МТЗ
ПОГРУЗЧИКИ ТО-18Б
ТРАКТОРА МТ382 МК-01
АВТОГРЕЙДЕРЫ ДЗ-180
Тел.: (017) 211-17-63, 211-17-65, факс 213-23-09.

ПРОДАЕМ
АВТОМОБИЛИ
ГАЗ-3110-341 "Волга"
ГАЗ-33021 "Газель"
ЗИЛ-5301 "Бычок"
МАЗы
Покупаем долговые обязательства энерго- и газовых хозяйств.
Возможен бартер на продукты питания и ТНП.
Тел.: (017) 213-23-08, 211-17-65, 211-11-33, факс 213-23-09.

Редакция газеты "НАРОДНАЯ ВОЛЯ"
ПРИГЛАШАЕТ
к взаимовыгодному сотрудничеству
МЕНЕДЖЕРОВ
по
РЕКЛАМЕ
Основные требования к кандидатам: объем работ, инициативность, коммуникабельность.
Наши предложения: 20% от стоимости заказа, графическая поддержка, возможность зачисления в штат.
Телефоны для справок: (017) 229-29-04, 229-29-06.

**Отовсюду**

## Внук Брежнева запускает "советскую" партию

**"Коррьере делла сера" (Италия):**

"Реабилитация наступила наконец-то для Леонида Брежнева и его "царства", которое еще вчера называли "застойной советской эпохой". Той, которая заложила основу горбачевского крушения. Но теперь в России, охваченной кризисом, стагнация считается стабильностью, а пересмотр эпохи прекращения конфронтаций на международной арене уже рассматривается как счастливый момент. И даже Брежнев подвергся переоценке.

Теперь внук Леонида откровенно говорит о возврате к "тем счастливым дням", когда всем чего-то не хватало, когда потребительское благосостояние не видели даже во сне (потому что лишь очень немногие могли выезжать за границу), но никто не был богатым.

Андрей Брежнев основал новую коммунистическую партию, чтобы следовать по пути не только Брежнева, но и Сталина и Хрущева, что подтверждают его несколько путаные идеи".

## Украина почувствовала первые симптомы недомогания, от которого страдает ее большой сосед

**"Вашингтон пост" (США):**

"Когда Россия прочищает горло, Украина начинает кашлять. Мир только сейчас начал просыпаться и понимать, что именно Москва делала не так в управлении своим огромным коррумпированным федеральным правительственным аппаратом и конкурирующими элитами. Однако ее юго-западный сосед уже давно почувствовал легкие предупреждающие симптомы.

Как заявил в интервью газете премьер-министр Украины Валерий Пустовойтенко, его страна начала ощущать наступление глобального экономического кризиса еще в октябре 1997 г., что заставило власти ускорить темпы приватизации и сократить расходы. Хотя Украине удалось стабилизировать производство и создать основу роста, события в России, ее стратегическом партнере, нанесли удар по республике в самый разгар реформ.

Пустовойтенко заявил, что в 1996 г. торговля между двумя странами составляла 17,6 млрд. долларов, в 1997 г. она сократилась до 15,3 млрд., а в текущем ожидается уменьшение еще на 1 млрд. долларов.

Пустовойтенко объяснил, что политический вакуум и неустойчивость исполнительной ветви власти в России в последние недели способствовали углублению финансового кризиса. "Надо знать, с кем имеешь дело, — добавил он. — Мы создали такие условия, в которых Россия не может предпринимать односторонних действий по отношению к Украине".

## Серьезные фальсификации на выборах в Азербайджане

**"Прессе" (Австрия):**

"Международные наблюдатели из ОБСЕ говорят о "серьезных нарушениях и фальсификациях", якобы сделавших выборы "не соответствующими международным нормам".

Виднейшие представители оппозиции — бывший президент и председатель Народного фронта Абульфаз Эльчибей, Иса Гамбар, глава партии "Мусават" ("Справедливость") и Расул Гулиев, бывший председатель парламента, не признают их. Они бойкотировали выборы под тем предлогом, что из-за преобладания сторонников президента в избирательных комиссиях возможны были "манипуляции".

Так или иначе, но старый-новый азербайджанский президент недолго сможет радоваться своему успеху. Ни одно из обещаний, данных им в ходе избирательной кампании, не может быть реализовано.

Уже в конце октября Алиев столкнется с проблемами. Международный консорциум планировал строительство нефтепровода из Баку через Армению и Грузию к турецкому порту Джейхан, которое стоило 4 млрд. долларов. Но упавшие цены на нефть, насыщенный рынок и негативные результаты первого бурения, принесшего не нефть, а лишь углекислый газ, разрушили мечты Азербайджана на добычу "черного золота". Подтвердились слухи, что проазербайджанское лобби в США ныне предпочитает более короткий путь через грузинский черноморский порт Супса и Украину, а то и прямо через Россию"..

## Чеченские кланы намерены "наказать банды похитителей людей"

**"Таймс" (Великобритания):**

"Президент разрушенной войной и отделившейся от России Чеченской республики Аслан Масхадов полагает, что британские заложники, захваченные в своей квартире в Грозном, живы.

"Мы надеемся, что сумеем освободить их", — заявил Масхадов на пресс-конференции в Варшаве.

Чеченские кланы — малхий и зусма — объявили о своем намерении отомстить похитителям людей, заявив по чеченскому телевидению: "Захватив британцев, находившихся под нашей защитой, похитители нанесли оскорбление двум из самых многочисленных и влиятельных тейпов Чечни".

Члены кланов выступили с угрозой в адрес похитителей, их друзей и близких, но заверили, что они не будут мстить, если заложников освободят мирным путем.

Личная заинтересованность этих кланов объясняется тем, что "Чечентелеком", на который по контракту работали британцы, управляется высшими членами тейпов малхий и зусма".

